Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



# КАМУНІКАТ Но. 4 (70 ад1999), ЖНІВЕНЬ, 2002

---

## ПОЎСТАГОДЗЬДЗЕ
## СУСТРЭЧАМ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

### ДА ГІСТОРЫІ СУСТРЭЧАЎ БПА

Як паведамляе газэта «Беларус»: **«Чарговая 25-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі** адбудзецца 31-га жніўня - 2-га верасьня 2002-га году ў Гайлянд Парку, штат Нью Джэрзі. Сачыце за інфармацыяй. Арганізацыйны камітэт.»

Дык сялетняя 25 Сустрэча БПА адзначыць 50-я ўгодкі - поўстагодзь.дзе - Сустрэчаў Берларусаў Паўночнае Амэрыкі. Пачаліся яны 5-6 ліпеня 1952 году ў Канадзе, над вадаспадам Ніягара. Гісторыя паўстаньня іх - першае сустрэчы беларуісаў Канады й ЗША - была такая: Вінцэнт Жук-Грышкевіч, што прыехаў у Канаду ў студзені 1950 году, ведаў, што ў ЗША жыве шмат ягоных сяброў зь Вільні й Прагі, ды ягоны дваюродны брат інж. Часлаў Ханяўка. Нікога ён зь іх, ад 30 верасьня 1939 году, калі бальшавікі яго арыштавалі й вывезьлі ў канцэнтацыйныя лягеры Варкуты, ня бачыў. Прагнуў надта зь імі ізноў сустрэцца. У лістох да іх сугэраваў наладзіць спатканьне. З гэтай мэтай ён зьвязаўся й з Арганізацыяй Беларускай Моладзі (АБМ) у ЗША, старшынём якое быў Міхась Тулейка. Дагаварыліся, што ЗБК і АБМ зарганізаюць Сустрэчу Беларусаў у Канадзе.

Наступным заданьнем было знайсьці адпаведнае мейсца на Сустрэчу. Найляпей адпавядаў бы на гэта, мяркаваў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, нейкі летні рэзорт у прыгожай і цікавай мясцовасьці ды недалёка ад граніцы ЗША. (У 1952 годзе мы яшчэ ня мелі свайго беларускага дому ў Канадзе.). У рэсорце была-б магчымасьць затрымацца ўдзельнікам Сустрэчы ды было-б мейсца - заля ці пляц - на сход, імпрэзы. Запасіўшыся картамі, якія любіў студыяваць, каб пазнаваць і арыентавацца ў ваколіцы, інфармацыямі пра летнія рэзорты, ды аўтабуснымі раскладамі, выбраўся ён з аўтаркай гэтых радкоў у падарожжа. Аўтобусам падехалі мы да пэўнага мейсца, а далей пехатой да, заплянаванага загадзя, аб'екту. Нахадзіўшыся да мленьня ног, мы знайшлі рэсорт з чыстымі котыжамі, вялікай плошчай пляцу для сходу, маляўніча паложаным над Вэлянд каналам, недалёка вадаспаду Ніягара, і граніцы ЗША. Такіх падарожжаў Вінцуку давялося адбыць некалькі, каб дасьледаваць не адзін абект і выбраць найболей адпаведны.



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

Першая Сустрэча Беларусаў Канады й ЗША адбылася 5-6 ліпеня 1952 году на канадыйскім баку вадаспаду Ніягара над Вэлянд Каналам. І гэтак запачаткавала яна традыцыйныя **Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.**

Першая Сустрэча прысьвечана была Янку Купалу - 70-м угодкам ад ягонага нараджэньня і 10-тым - ад трагічнае яго сьмерці (забойства Янкі Купалы). Ключавы даклад на тэму «Янка Купала як чалавек і грамадзкі дзеяч» меў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, ініцыятар, адзін з галоўных арганізатараў першае Сустрэчы беларусаў Канады і ЗША. Ягоная была й ідэя прысьвяціць Сустрэчу Памяці Янкі Купалы. На гэтай Сустрэчы прысутнічалі такія выдатныя асбістасьці, як прадстаўнік Урадыу БНР ў ЗША сп. Ян Чарапук-Змагар, што жыў тады ў Чыкага, а дакладней у Дэльтон Ілььлінай; паэтка Натальля Арсеньнева й ейны муж гэнэрал Франьціш Кушаль, што жылі ў Нью Ёрку; сьпявачка зь Менску, што так хораша выконвала беларускія народныя песьні; др. Баляслаў Грабінскі - Вілянчук; інж. Мікола Гарошка, калісь студэнт ў Празе; старшыня АБМ Міхась Тулейка; Васіль Русак; праўнік Леанід Галяк - Вілянчук; сям'я Ханяўкаў; Рамукі з Чыкага і шмат іншых. Паводле Камунікату Галоўнае Управы ЗБК з 24 студзеня, 1953 году «У Сустрэчы прыняло ўдзел панад 120 беларусаў з абедзьвюх краін».

Уся багатая праграма Сустрэчы - даклады, прамовы, мастацкая частка, адведваньне вадаспаду Ніягара, увечары купальскае (хоць і ў ліпені) вогнішча над ракой, а фактычна над Вэлянд каналам, зь песьнямі й вянкамі на вадзе - усё адбывалася пад адкрытым небам. А ліпнёвае канадыйскае неба было яснае - сонечнае або зорнае - прыветлівае да беласрускіх выгнанцаў зь іхняе «сінявокае Беларусі».

Другая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбылася ў Таронта ў верасьні 1956 году. Мы - Згуртаваньне Беларусаў Канады (ЗБК) - ўжо мелі свой беларускі дом на Дандас 1000 у Таронта, але галоўная частка Сустрэчы адбывалася на Цэнтральным востраве - Central Island, што на возеры Онтарыё каля Таронта. Ехалі мы - удзельнікі Сустрэчы - туды параплавам. Там на вялікай плошчы ў цені дрэў айцец Міхась, пазьнейшы Мітрапаліт БАПЦ Уладыка Мікалай, адпраўляў Урачыстую Божую Службу. Пяяў вялікі, бо й Сустырэча была надта людная, хор. Тады гэта мы-канадыйскія беларусы, ды й уся канадыйская зямля першы раз чулі велічны, што із сотні грудзей узносіўся да неба, беларускі гімн «Магутны Божа!». Пяяла яго й, прысутная на Сустрэчы, Аўтарка «Малітвы» - Натальля Арсеньнева.

Пятая Сустрэча БПА адбылася ў Таронта ў 1962 годзе. Тады мы ўжо мелі ад 1959 году Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр на Сант. Клярэнс ў Таронта. У той час Саветы праводзілі вострую кампанію «за вяртаньне на Радзіму» дзейнае нацыянальна беларускае эміграцыі. Вінцэнт Жук-Грышкевіч меў даклад на тэму: «Мы ня вернемся пад савецкую акупацыю». У часе 5-ае Сустрэчы БПА было шмат дакладаў , між імі памятаю й даклад доктара Янкі Станкевіча. Трэба адзначыць , што ўсе, апрача першае, Сустрэчы БПА арганізавала ЗБК і БАЗА.

Памятнай і велічнай была 10-я Сустрчэча БПА 2-3-4 верасьня 1972 году ў Таронта, Канадзе, прысьвечана:

**90-м угодкам ад нараджэньня ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА ды 450-тым УГОДКАМ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ .**

(Пра 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі, мы гаварылі ў Камунікаце ККБК Но 3, за ліпень, 2002, ды ў Камунікаце нр. 1, 2000.)

Адкрыцьцё Сустрэчы - адбылося ў суботу а 3-ай папаўдні ў БР-ГЦ. Цэнтрам дэкарацыі залі быў вялікі з 90-ці белых і чырвоных гвазьдзікаў букет у гонар 90-г угодкаў Янкі Купалы й Якуба Коласа. На сьценах залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на Ст, Клярэнс, была выстаўка абразоў Івонкі Сурвіллы. У часе адкрыцьця Сустрэчы прачытаныя былі даклады:

1. «Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён» - праф. Антона Адамовіча;.
2. «450 год друку на беларускай зямлі» - др. Вітаўта Тумаша;
3. «Дзейнасьць Клюбу Пагоня» - Каструся Акулы;
4. «Як арганізаваць Сустырюэчы, каб усе былі задаволены» - др. В. Жук-Грышкевіча.

Увечары ў залі БР-ГЦ была супольная вячэра й а 8-ай - Баль Сыстрэчы.

У нядзелю 3-га верасьня, 1972 - Урачыстая Божая Служба ў БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага, і пасьля яе супольны абед ў залі Цэнтру. У 3:30-й гадзіне папаўдні у вялікай Аўдыторыі Цэнтральнае Тэхнічнае Школы адбыўся Урачыстры Сход Сустрэчы з дакладамі др Ст. Станкевіа пра Янку Купалу й праф. А, Адамопвіча пра Якуба Коласа; прывітальныя прамовы старшыняў : Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч, і БАЗА сп. Расьціслава Гарошкі, на канец канцэрт.

У 8:30 вечара - Сяброўская вечарына. ў залі БР-ГЦ у Таронта. У панядзелак - сьнеданьне ў БР-ГЦ, і разьвітаньне.

**13-я Сустрэча** БПА , што адбылася на пачатку верасьня **1978** у Таронта, Канадзе, прыпадала на 61-я ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ды 60-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч у сваёй прывітальнай Сустрэчы прамове гаварыў аб цяжкім шляху, які мусіла прайсьці Рада й Урад БНР за апошнія 60 год, аб патрэбе нашага бязупыннага змаганьня за ўзнаўленьне незалежнасьці БНР. «Галоўнае наша заданьне наперадзе», казаў у канцы сваёй прамовы Старшыня Рады БНР.

**18-я Сустрэча** БПА 3-5 верасьня **1988** году ў Таронта **была важаная тым,** што на трэці яе дзень узельнікі Сустрэчы зрабілі паломніцтва ў Прошчу паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у - Martyrs' Shrine in Midland Ontario - **дзе 5 верасьня, 1988 г. адбылося Урачыстае Асьвячэньне БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА**, узьнесенага, пад кіраўніцтвам былога Старшыні Рады БНР др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча й старшыні ЗБК - др. Раісы Жук-Грышкевіч, беларусамі замежжа на адзначэньне **1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі.** Урачыстасьці асьвячэньне Крыжа праводзіў а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў, зь Лёндану Англіі.

**21-я Сустрэчы БПА ў Таронта 3-5 верасьня 1994** была адметная тым, што на ёй былі выдатныя госьці зь Беларусі, як праф. Радзім Гарэцкі Старшыня ЗБС «Бацькаўшчына, Ганна Сурмач стартшыня Вялікай Раду ЗБС «Бацькаўшчына», фатограф Анатоль Кляшчук зь Менску ды шмат іншых. На трэці дзень Сустрэчы - 5-га верасьня - удзельнікі яе ўлучна з шаноўнымі гасьцьмі зь Беларусі - зрабілі паломніцтва, ужо шостае з чаргі, да **БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА** ў прошчы - Martyrs' Shrine in Midland Ontario. Пасьля ўрачыстасьцяў ля Беларускага Крыжа Ганна Сурмач, Старшыня Вялікай Рады ЗБС «Бацькаўшчына» ахінула

Беларускі памятны Крыж Слуцкім паясом. Прафэсар Радзім Гарэцкі выразіў беларусам Канады прызнаньне: «Вы зрабілі вялікую справу !». Вялікую справу тым, што ўзьнесьлі ў Matyrs' Shrine in Midland, Ontario Беларускі памятны Крыж з мэамрыялнай табліцай з напісамі ў ангельскай ды беларускай мовах ды тэкстам - першае й апошняе строфкі - «Магутны Божа», зрабілі беларускія малітоўныя карткі для сьвятыні Прошчы, ды што арганізуем штогоднія паломніцтвы да Беларускага Крыжа. Робім усё нам магчымае, каб **ЖЫЛА БЕЛАРУШЧЫНА.**

* * *

**Арганізатарам 25-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі** жадаем памыснасьці й удачаў - спору ў працы накіраванай на карысьсь беларускай вызвольнай справы. **Жыве Беларусь!**

Раіса Жук-Грышкевіч

**Натальля Арсеньнева. КРЫЖ**

Як вокам ськівуць -
сьцяг пушчаў сініх. . .
За пушчай далеч, яшчэ сіней . ..
А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне. . .
Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў, выкліканых бядой.
прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць каленьні,
сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.
«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу», маліўся хор,
і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай
хіліўся, ветру на перакор.
А вецяр дужаў, кудысь аблокі
зусім павосеньску ўжо плылі.
Маўчала прошча, унізе-ж далёка
сінелі зарасьнікі й палі.
- «Магутны Божа», бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвышм
стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.
Тут - дождж імгненна каменьне сьпляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, у лісьці. . .
Няйначай -
і Нехта дзесь там, над намі,
наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.

Прошча, 5 верасьня, 1988 год.

---

**Бэры, Канада**
**12жніўня, 2002**

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Былы Старшыня ККБК**